

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# НАША СЛОВА





**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 43(428)** **27 КАСТРЫЧНІКА 1999 г.**


# 2-га лістапада на Беларусі найвялікшае свята --Дзяды

## Заўчасна знішчаныя сыны Зямлі Беларускай

**(да дня памяці ўсіх ахвяр рэпрэсій)**

У часы бальшавіцкага генацыду супраць уласнага народу бязвінна забітых безліч. І першымі ў ахвяру самаедам ды крывацмокам прыносіліся таленавітыя асобы, знакамітыя паэты, пісьменнікі, выбітныя культуровыя дзеячы ды навукоўцы. Не абышла тая бяда і зямлі Беларускай. Каб не паўтараць болей збітыя выразы, хочацца проста прывесці ніжэй прозвішчы тых, каго знішчыў той бяздумны Молах, але іх імёны нават у сённяшні няпросты час, - ёсць гонар нашага краю.

**Максім Гарэцкі** – пісьменнік, навуковец, расстраляны бальшавікамі.

**Уладзімір Галубок** – драматург, празаік, рэжысёр, акцёр, загінуў у турме.

**Язэп Лёсік** – навуковец, літаратар, грамадскі дзеяч, акадэмік, расстраляны.

**Цішка Гартны** – празаік, паэт, грамадскі дзеяч, першы старшыня ўрада БССР, звар'яцеў і памёр у астрозе.

**Андрэй Мрый** – пісьменнік-сатырык, загінуў у ссылцы.

**Міхась Чарот** – першы пралетарскі паэт, празаік, драматург, расстраляны.

**Тодар Кляшторны** – паэт-лірык, расстраляны.

**Міхась Зарэцкі** – таленавіты празаік, расстраляны.

**Уладзімір Хадыка** – самабытны паэт, загінуў на катарзе ў каменаломнях.

**Анатоль Вольны** – паэт, кінадраматург, расстраляны.

**Уладзімір Жылка** – паэт, загінуў у ссылцы.

**Васіль Шашалевіч** – драматург, загінуў на катарзе.

**Адам Бабарэка** – празаік, літаратурны крытык, загінуў у ссылцы.

**Лукаш Калюга** – празаік, расстраляны.

**Платон Галавач** – празаік і відны грамадскі дзеяч, расстраляны.

**Юлік Таўбін** – паэт, расстраляны.

**Алесь Дудар** – паэт, расстраляны.

**Сяргей Астрэйка** – паэт, расстраляны ў 25-цігадовым узросце.

**Барыс Мікуліч** – празаік, памёр у ссылцы.

**Янка Нёманскі** – празаік і навуковец, расстраляны.

**Васіль Каваль** – празаік, расстраляны.

**Юрка Лявонны** – паэт, расстраляны.

**Сяргей Дарожны** – паэт, загінуў на катарзе.

**Міхась Багун** – паэт, загінуў па дарозе на катаргу.

**Сымон Баранавых** – празаік, расстраляны.

Гэта толькі невялікая частачка ў мартыралогу бязвінна загубленай нашай інтэлігенцыі.

***Язэп Палубятка.***

## Да 125 угодкаў А.Уласава

**7 кастрычніка ў Менску адбыўся вечар, прысвечаны 125-годдзю са дня нараджэння вядомага беларускага выдаўца, публіцыста і грамадскага дзеяча А. Уласава.**

Менск. 7 кастрычніка ў дзяржаўным Літаратурным музеі Янкі Купалы прайшоў вечар, прысвечаны 125-годдзю са дня нараджэння вядомага беларускага выдаўца і публіцыста, эканаміста і гра-мадскага дзеяча Аляксандра Ўласава. У ім прынялі ўдзел даследчыкі і крытыкі творчасці А.Уласава Арсень Ліс, Уладзімір Содаль, а таксама яго родныя і блізкія.

Доктар філалагічных навук А.Ліс нагадаў, што А.Уласаў разам з братамі Антонам і Іванам Луцкевічамі заснаваў у Вільні першую беларускамоўную грамадска-палітычную і літаратурную газету "Наша Ніва", са студзеня 1907 па сакавік 1914 года быў яе выдаўцом і рэдактарам. Па словах навукоўца, у многім дзякуючы дзейнасці А.Уласава, які "з'яднаў вакол сябе вядомых беларускіх пісьменнікаў, "Наша Ніва" несла ў народ слова праўды, свабоды і любові да Беларусі і стала своасаблівым духоўным апірышчам нацыянальнай незалежнасці". За свае артыкулы, у якіх А.Уласаў прапагандаваў ідэю фермерства і выступаў за нацыянальную дзяржаўнасць Беларусі, гэты, паводле словаў А. Ліса "абуджальнік беларускай зямлі" быў некалькі разоў пад судом, а ў 1910 годзе заключаны ў астрог.

У 1914 г. А. Уласаў пераехаў у Менск, дзе заснаваў сельскагаспадарчы ("Саха") і дзіцячы ("Лучынка") часопісы, беларускія бібліятэкі, кнігарні і драматычныя гурткі. Па словах У.Содаля, у многім дзякуючы асветніцкай дзейнасці А.Уласава, "Менск губернскі стаў ператварацца ў Менск беларускі". Ва урадзе Беларускай Народнай Рэспубліцы А.Уласаў быў намеснікам яго старшыні Язэпа Лёсіка, а после падзелу краіны ў 1921 годзе актыўна ўдзельнічаў у дзейнасці "Таварыства беларускай школы" ў Заходняй Беларусі. Нягледзячы на рэпрэсіі польскай дэфензівы, адчыніў у Радашковічах беларускую гімназію, а ў 1922 годзе быў абраны ў сенат польскага сейма. У верасні 1939 года Аляксандр Уласаў быў арыштаваны па абвінавачванню ў засылцы польскіх шпіёнаў на тэрыторыю СССР і загінуў у сталінскіх лагерах у сакавіку 1941 года.

Да вечара была дастасавана выстава з матэрыяламі з сямейнага архіва сям'і Уласавых і фондаў музея.

Марат Гаравы, БелаПАН.

## *Івану Лепешаву*

Сакратырыят ТБМ ад усёй душым жадае Івану Лепешаву найлепшых спраў на карысць Беларусі



МІНСКІ ГАРАДСКІ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ
УПРАЎЛЕННЕ КУЛЬТУРЫ

МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ
УПРАВЛЕНИЕ КУЛЬТУРЫ

№ 20/1.16 ад 06.10.1999

Старшыні Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны

Трусаву А.А.

Паважаны Алег Анатольевіч!

Артыкул Я.Неслухоўскага «Новое в русистике», надрукаваны ў газеце «Имя» 9 верасня 1999 года, разгледжаны на Упраўленні культуры Мінгарвыканкома.

Паведамляем, што факты, прыведзеныя ў артыкуле, мелі месца. Інфармацыйныя паказальнікі ў пераходзе станцыі метрапалітэна «плошча Я.Коласа», у назве якіх дапушчаны памылкі, зняты. Аформлены заказ на выраб новых.

З павагай,

начальнік упраўлення В.І.Кураш

Стахевіч 221 74 97

## Беларускія СМІ пра беларускую мову

*Агляд і каментары Язэпа Палубяткі*

Трэба бараніць не толькі людзей ад рэпрэсій існага рэжыму – трэба бараніць і нацу мову. На самой справе, праблема мовы, як праблема ўладароў і нашай дзяржавы – самая балючая і невырашаная на гэты момант. Вакол яе разгортваецца палітычная барацьба, супроцьстаянне і падзел грамадства. Знікаюць беларускія школкі і класы, родная мова не выкарыстоўваецца ні выкладчыкамі, ні студэнтамі, ні навучэнцамі школ і ПТВ, за рэдкімі выключэннямі.

**Юлія Жукава**
**"Моладзь за волю" № 3 верасень 1999 г.**

*8 верасня я быў на свяце Беларускай вайсковай славы. Там я пазнаёміўся з сям'ёй якая размаўляла на прыгожай беларускай мове. Я пазайздросціў хлопчыку, што тата і мама навучылі яго роднай мове і заўсёды на ёй размаўляюць.*

***Аляксандр Лапцік 7 клас***
***"Народная воля" 15.10.99г.***

Становішча з навучаннем на беларускай мове ў школе, што склалася ў нашай краіне, не вызначаецца дбаннем пра адраджэнне роднай культуры. Вядома: штогод колькасць беларускіх класаў скарачаецца, усё менш і менш дзяцей атрымліваюць адукацыю на мове Скарыны і Багушэвіча. Адна справа, калі выбар робіцца бацькамі і дзецьмі, зусім іншае – калі рашэнне прымаецца за іх і супраць іхняй волі.

**Марыя Шахоўцава**
**"Народная воля" 7.10.99г.**

*Газета "Звязда" змясціла здымак не па гадах журботнага, сумнага хлапчука, які абедзвюма рукамі ашчарэпіў падручнік "Беларуская мова". А подпіс пад здымкам такі: "Трымайся і трымай мацней!". Мы, вядома ж, разумеем усю горыч, боль і абсурднасць сітуацыі са становішчам беларускай мовы ў незалежнай беларускай дзяржаве. Ну, а як вытлумачыць такі подпіс каму-небудзь з нашых суседзяў і несуседзяў, немцу, напрыклад, ці шведу?*

***Красамоўства тыдня***
***ЛіМ № 40***

### Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны сп.Трусаву А.

### Кудзіну Л.А. г.Мінск, пр.Пушкіна, 8-82

Упраўленне адукацыі Мінгарвыканкама сумесна з аддзелам адукацыі адміністрацыі Фрунзенскага раёна разгледзела заяву Кудзіна Л.А., якая паступіла з Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь ад 25.08.1999 года № 30-06/к-873, і паведамляе наступнае.

У адпаведнасці з новай рэдакцыяй Закона "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", зацверджанай Указам Прэзідэнта ад 13 ліпеня 1998 г., кожны жыхар нашай краіны мае права на атрыманне адукацыі на беларускай або рускай мовах.

Улічваючы пажаданні бацькоў, у горадзе працуюць як рускамоўныя, так і беларускамоўныя школы, а пры наяўнасці неабходнай колькасці вучняў адкрываюцца беларускія класы і ў рускамоўных школах.

Згодна рашэнню Мінгарвыканкама " 266 ад 27.03.97 г. 5-11 класы агульнаадукацыйных сярэдніх школ павінны камплектавацца зыходзячы з найменшай напаўняльнасці 30 чалавек.

Бацькі вучняў будучага 6 "А" класа СШ № 96 пажадалі навучаць сваіх дзяцей на рускай мове і клас быў пераведзены на рускую мову навучання.

Кудзіну Аляксандру, вучню 6 "А" класа, прапанавана бліжэйшая СШ № 99 з агульнаэстэтычным ухілам, дзе ён зможа прадоўжыць навучанне па-беларуску. Дамоўленасць з дырэктарам СШ № 99 ёсць.

***Начальнік упраўлення Г.А.Пятровіч***





# "Дажыліся!"

Узяцца, як гавораць, за пяро" і выказаць набалелае прымушае сённяшні стан жыцця сельскага жыхара. Нельга пазайздросціць і гарадскому працоўнаму люду нашай краіны, але нават лютаму ворагу не пажадаў бы апынуцца ў такім сацыяльна-эканамічным становішчы ў якім сёння знаходзіцца наша вёска, нашы сяляне, пенсіянеры, працоўная калгасная моладзь, інтэлігенцыя, дзеці, інваліды. Калі гаварыць пра апошніх, то не памылюся – іх у сельскай мясцовасці, сярод усіх жыхароў, 20-30%. І гэта ўвогуле не інваліды ад нараджэння, а тыя, хто страціў сваё здароўе і працоўны стан на палях і фермах у калгасных майстэрнях. Як правіла, сельскія пенсіянеры – інваліды І-ІІ-ІІІ груп доўга не жывуць, як недажываюць чалавечай магчымасці да доўгага жыцця і астатнія пенсіянеры. Спецыяльных статыстычных дадзеных па гэтых паказчыках у нашай краіне ніхто не праводзіць, і я ўпэўнены, што доўга яшчэ не будуць праводзіць, бо лік ці то ў % ці ў наяўных адзінках будуць жахлівымі. Раз так, то гэта сапраўды ненармальная з'ява ў грамадстве, у дзяржаве, у кіраўніцтве гэтай дзяржавы, і ў першую чаргу, у чалавеку які кіруе штатам дзяржаўных чыноўнікаў –"господину" А. Р. Лукашэнку. Выдзяляю знарок слова "господин" на рускай мове, бо прэзідэнт і яго атачэнне могуць не разумець беларускамоўнага слова "спадара", якое (слова) з СМІ ўжо чыноўніцкім загадам забаронена ўжываць у афіцыйных дакументах, і г.д. Што датычыцца забароны нават аднаго нацыянальнага слова "спадар" то гэта відавочная і чарговая бязглуздзіца, дурымаршчына дзяржаўных чыноўнікаў, якія вядома ж з шкуы лезуць, каб дагадзіць "кормчему". Што датычыцца расейскага слова "господин и господа" – якім я назваў прэзідэнта краіны, то яно – слова, сапраўды адпавядае рэчаіснасці (іх) жыццёвага ўзроўню. Мы сельскія жыхары, у тым ліку і я, як вясковы інтэлегент, супраць іх проста жабракі, "нищие" (каб было зразумела). Ці патрэбны доказы, аргументы, лічбы, працэнты? Я думаю, што кожнаму з вас, хто хоча пераканацца ў справядлівасці маіх сцвярджэнняў, трэба прыехаць у вёску і спачатку схадзіць на звычайныя вясковыя могілкі —падлічыць памерлых за апошніх 10 год, а затым прыйсці ў гэтую ж вёску і спытаць у яе жыхароў: — Людцы! Колькі ў вас нарадзілася дзяцей?!" Прапаную цікаўным і дапытлівым параўнаць цэны на прадукты харчавання і рэчы першай неабходнасці ў сельскай краме і ў гарадской. Ці ж гэта не абсурд, ці не галавацяпства? Булка звычайнага чорнага хлеба ў сельскай мясцовасці даражэй у 2 (два разы). Я не кажу ўжо пра іншыя тавары, на якія нібыта, каб завязці ў сельскую мясцовасць павышаюць цэны "за перавозку". Хочацца спытаць "разумнікаў" у міністэрскіх крэслах: — Госпада міністры! Адкуль паступаюць прадукты харчавання, сыравіна на адзенне, абутак і г.д., ці ж не з вёскі? Чаму ж вёска не абдзірае вашыя ведамствы за перавоз з вёскі ў горад? Усе ўсклікнеце: — Гэта ж вар'яцтва, абсурд! А ці не вар'яцтва, ці не абсурд тое, калі вы з забітага селяніна здзіраеце тры шкуры за нейкі перавоз. Ці не вар'яцтва ў выхадныя і святочныя дні браць з людзей у асноўным з сельскіх жыхароў – "прэзідэнцкія" – удвая даражэй, грошы за праезд у грамадскім транспарце. Дзеля чаго?! Мо для таго, каб не маглі дзеткі з горада прыехаць і дапамагчы ў працы сваім нямоглым бацькам. Як інакш растлумачыць павышэнне цэн? Гэта ж яўны здзек, рабунак сярод белага дня! Людзі! Куды вы глядзіце? З каго вы здзекуецеся?! Мала таго, што 80 год Савецкай улады ставілі калгаснікам амаль адны "палачкі" на працадні, цяпер пачынаеце здзек як ксяндзы ў сярэдневеччы за продаж індульгенцыі.

З усяго бачнаага і яўнага, прыходзіш да высновы: — Ой, патрэбна Рэфармацыя!! Ды яшчэ якая" Годзе вам "господа" абшукваць зацюканых і згадлівых калгаснікаў на вашыя рэферэндумы, годзе з іх выціскаць апошнія сокі!

Паглядзіце на сённяшняга селяніна – беларуса, і між волі ўсплываюць словы з радкоў геніяльнага рускага пісьменніка, мінулага стагоддзя, Мікалая Някрасава з верша "Железная дорога": "— Стоит измождённый, сухой белорус".

Шаноўныя грамадзяне, суачыннікі! Трэба прааналізаваць склаўшуюся сітуацыю з цэнамі паміж горадам і вёскай, трэба ўглядзецца ў соцбыткульт сельскага працаўніка, каб зразумець, што наш беларус – селянін жыве горш за жыхара Нігерыі і Гватэмалы у 5-6 разоў. Хто давёў яго да такога стану?! Ці ж не апірышча прэзідэнту калгаснікі – пенсіянеры ў яго розных назацыях? То чаму тады пан вяльможны так кепска ставіцца да сваіх слуг – выкіне надбаўку да пенсіі – (даруйце, костку, як сабакам) у 15-20%, каб не "гаўкалі", і цішыня, благадаць. Цэны ж павялічваюцца на 50-70%. І дзе тая знакамітая барацьба прэзідэнта з мафіяй і карупцыяй?! Як пад'едзеш да горада, то нібы ў казку трапляеш – перад вачыма вырастаюць, як грыбы ў лесе, казачныя 2-3 і нават 4-х этажныя церамкі. Хто ў іх жыве, гномікі?!

Вось суграмадзяне, на нашых вачах плююць нам у "харю" (твар) і кажуць: —Дождж ідзе! "Ці не пара нам рабіць высновы? Трэба сапраўды дапамагчы прэзідэнту, бо ён адзін, з гэтай мафіяй і карупцыяй, не справіцца. Паглядзіце на халупы ў вёсках у якіх часам жывуць інваліды вайны і працы. Дажыліся!

***Вёска Пасадзец, Лагойскі р-н, Сідарэвіч Мікалай Міхайлавіч***

# Такой была старабеларуская мова

Слушна выказаў абурэнне чытач М.Паседзька з Светлагорска ў "Нашым слове" (№26) жаданнем кіраўніцтва нашага радыё забараніць ужыванне ў эфіры слова ***"спадар"***. А яно, як і слова "спадарыня" прыйшло да нас з глыбіні вякоў, жыло ў мінулых стагоддзях і шырока ўжывалася ў народзе. Аб гэтым сведчыць "Баркалабаўская хроніка". У ёй паведамляецца, што вясною 1602 года быў голад і мор. Людзі прасілі дапамогі: "... такія словы моцна, слёзна, горка казалі: "Матухна, панюшка... спадарыня, звездухна, дай крошку хлеба". Або "спадарыня, перапёлачка, зорушка, зернетка, сонейка, дай лыжачку варыва дзіцятку".

Гэтыя словы аднаго кораня і ўтварыліся ад слова "гаспадар", якое ўжывалася ў тыя часы ў значэнні княства і князя. Пацверджаннем служыць таксама гэты летапіс. Князь Лаўрын (Войшалк): "И рек паном: " Я света того отрекаюся. Взял если на себе чорную рызу, а господарства я не хочу. Возмите себе господарем, кого воля ваша будеть". Цяпер гэтае слова абазначае ўласніка, уладальніка маёмасці, але яно сугучнае слову ***гасудар.***

Цікавае апісанне ў гэтым летапісе заснавання герба княства Літоўскага "Пагоня": "Дзядко мой Нарымонт коли сел на великом княстве Литовском гэрб свой Китоврус зоставил брати свойе, а собе вделал герб чоловека на кони з мечом. А то знаменуючы через тот герб пана дорослого лет, хто бы мог боронити мечом отчызны своее. А про то оберите собе господара доброго, хто бы мел боронити того панства великого князства Литовского". Нарымонт княжыў у канцы XIII стагоддзя. Як вядома, герб "Пагоня" наша ўлада таксама сумела забараніць нароўні з бел-чырвона-белым сцягам.

Мяне ўзрадавала ўжытае ў гэтай хроніцы слова лазня: "Князь великий Довмонт направил шесть мужыков на брата своего Троиденя забити, яго ж он шаг безпечно собе з лазни в Новгородку. И тые мужыки его зрадно забили". (Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Дапаможнік для ВНУ. 1959г.).

Гэтая старажытнабеларуская мова была асноўным пісьмом у Вялікім княстве Літоўскім і ўсё дзяржаўнае справаводства вялося на ёй. Але пасля аб'яднання ВКЛ з Польшчаю ў канфедэрацыю – Рэч Паспалітую ў 1569 годзе ўжыванне беларускай мовы стала звужацца, а ў 1696 г. яна ў справаводстве ВКЛ была заменена польскаю. Пасля далучэння да Расеі пануючай стала расейская мова, а старабеларуская паступова адмерла. Адраджэнне літаратурнай, пісьмовай цяперашняй мовы пачалося ў XIX ст. на аснове народных гаворак і дасягнула ў наш час высокай дасканаласці. Але ўсяроўна патрабуе паважлівых адносін да кожнага яе слова. Так вярнуліся словы мытня, мытны кантроль і другія.

***Міхась Пузіноўскі, г.Ашмяны.***

**Павел Сцяцко,**

*доктар філалагічных навук, прафесар, намеснік старшыні Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

# "З чужой моўнай практыкі..."

Працяг

***Значнасць, вартасць – а не значымасць.*** Слова ***значымасць*** – утварэнне ад ***значыма***, якое ад ***значыць (значымы). Утварэнне з суфіксам –ім- (-ым-)*** неўласцівыя беларускай мове; яны характэрныя для расейскае мовы; параўн.: ***уважаемый – паважаны, спрягаемый, склоняемый – скланяльны, спрагальны, обтекаемый – абцякальны, гонитый – гнаны, доказуемый – доказны, делимый – падзельны*** ды інш.

Ніводны перакладны слоўнік не падае гэтых словаў – значымы, значымасць у беларускай частцы слоўнікавага артыкула, а толькі ў расейскай. "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй знаных пісьменнікаў і навукоўцаў-акадэмікаў Я. Коласа, К.Крапівы і членакарэспадэнта АН БССР П. Глебкі (М.,1953.С.168) засведчыў: "Значимость – значнасць, важнасць, значэнне; значимый – значны, важны". Двухтомавае перавыданне яго – РБС-82 і трохтомавыя – РБС-93 і РБС –98 цалкам пацвярджаюць гэта; у іх дадаецца толькі ілюстрацыя: значимые слова лингв. значныя словы (РБС-93. Т. 1. С.531).

Не бачым гэтых небеларускай структуры словаў значымы і значымасць нават у двухтомавым БРС-88,89, дзе нямала штучных, небеларускіх словаў. У першым томе на с.530 чытаем: "Значнасць ж. 1. Значительность; см. значны; 2. Значительность; значимость; сацыяльная значнасць – социальная значимость; Значны 1. (большой по размеру) значительный; порядочный, изрядный, солидный; 2. (важный) значительный; значимый; 3. Разг. заметный; ледзь значная ўсмешка – едва заметная улыбка".

А вось у "Тлумачальным слоўніку", які занатаваў і свае, беларускія словы ***значны*** і ***значнасць,*** бачым і чыжыя, расейскамоўныя дублёры іх: "Значымасць, ж. 1. Наяўнасць значэння, сэнсу. Значымасць слова. 2. Важнасць, значнасць (у 2 знач.). Значымы 1. Які мае значэнне, сэнс. Значымыя гукі. Значымыя словы. 2. Важны па значэнню. Значымыя падзеі (ТСБМ. Т.2.С.501). Але з тымі самымі значэннямі і іх дэфініцыямі падаюцца на гэтай самай старонцы і свае натуральныя словы значнасць і значны. Дык для чаго спатрэбіліся гэтыя няпрошаныя дублёры? Каб хутчэй выціснуць з ужытку свае словы?

Штучнасць гэтых самых структураў відаць ужо з таго, што складальнікі тлумачальнага слоўніка не знайшлі ніводнай ілюстрацыі выкарыстання лексемы **значымы,** а вось натуральнае значны, як паказваюць ілюстрацыі пры ім, выкарыстанае ў творах Я. Коласа, К.Крапівы і шмат іншых пісьменнікаў.

Калі пагадзіцца з гэтым значымы, то тады трэба пісаць (і казаць) і "шматзначымыя" словы, пяцізначымыя (лікі) ды пад., але ж натуральнымі ёсць словы шматзначныя, пяцізначныя. Дык адкуль узяліся гэтыя ***значымасць*** і ***значымы***? Адказ вядомы: іх перапісалі з 4-томавага "Словаря русского языка" (М., 1957-1961, другое выд.1981). Гэта пацвярджае і поўнае супадзенне слоўнікавых артыкулаў з гэтымі лексемамі ў абодвух слоўніках. Параўнайце ўжо згаданае з ТСБМ і вось гэтае з СРЯ (Т.1.М.,1981.С.618): "Значимость значение, смысл. Значимость слова. 2. Важность, значительность (во 2 знач.). Значимый. 1. Обладающий значением, смыслом. Значимые звуки. Значимые слова. 2. Важный по значению, значительный".

Апошнім часам, як сінонім для значнасць выкарыстоўваецца сллова вартасць: "Тэарэтычная і практычная вартасць дысертацыі" (Янушкевіч С.А. Уласныя назвы паселішчаў Заходняй Гродзеншчыны. Аўтарэферат дысертацыі на атрыманне вучонай ступені кандыдата філалагічных навук. Мінск, 1998.С.3).

***Бунт, мяцеж, рокаш.*** Слоўнікі 20-х гадоў падавалі толькі слова ***бунт*** і яго вытворныя ***бунтаваць, бунтаванне, бунтавацца, бунтаўнік, бунтаўніца, бунтоўны*** (рас. ***бунтарский***) (БРС-26.С.50). І гэта натуральна, бо слова ***мяцеж*** не мае ў беларускай мове дзеяслоўнае асновы і народнага выкарыстання (яго не падаюць дыялектныя слоўнікі, "Слоўнік беларускай мовы" І.Насовіча ды інш.). Не рэгіструе гэтага слова ў беларускай і ўкраінскай мовах М.Фасмер у "Этимологическом словаре русского языка", яно зафіксаванае ў стараславянскай мове, балгарскай ***метеж,*** славенск. ***metez*** 'мяцеліца', 'завіруха', чэшск. ***metez*** *'безлад' 'переполох', 'разгубленасць'.* Паходзіць ад мяту, мутить (Т.3.М., 1971. С.31). Такім чынам, рас. ***мятеж*** (этымал. ***Метеж***) ад *метать(ся), мутить;* параўн. ***Смять – зламаць*** (васн.). Беларускай мове неўласцівыя ні суфікс ***–еж***, ні ўтваральная аснова яго: рас. метать – кідаць, перакставаць, класці (ікру), метаться – кідацца, мітусіцца, бегаць, гойсаць; мутить – бунтаваць, падбухторваць, баламуціць; мутить людей – баламуціць (бухтаваць, падбухторваць) людзей (РБС-53.С.268, 255, 638). Параўн. рас. мятущийся – утрапёны, неспакойны, бунтоўны" (РБС-53.С.270).

Як вайсковы тэрмін рас. ***мятеж*** перакладаецца словам ***рокаш; мятежный – рокашны, мятежник – рокашнік*** (С. Суднік, С. Чыслаў. Расейска-беларускі вайсковы слоўнік. Мн.,1997. С.104). Было ўласцівае яно і старажытнай мове. Пасля рэпрэсіяў 30-х гадоў слова ***мяцеж*** сталі падавацца і ў беларускай частцы перакладных слоўнікаў. Трапіла яно і ў тлумачальныя слоўнікі як дублет слова ***бунт***.

***Рысунак і чарцёж.*** Слоўнікі 20-х гадоў не падавалі слова ***чарцёж***, а толькі ***рысунак***. У "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С. Некрашэвіча (Менск, 1926.С.281) чытаем: "Рысунак – рисунок, чертеж". Гэтае слова замацавала "Беларуская навуковая тэрміналогія. Ч. 1.Элементарная матэматыка". Слова мае цэлае гняздо аднакаранёвых лексемаў, якія таксама падае слоўнік: "Рыса – черта; рысавальнік – чертежник, рысавальная – чертёжная, рысаваць – чертить, рыска – черточка".

Пасля моўнае рэформы 1933 года слоўнікі перайшлі на ***чарцёж*** і ў беларускай частцы перакладу. Аднак гэта пярэчыць натуральнасці беларускай мовы, бо ёй неўласцівая структура гэтага слова – яе каранёвая частка ***чарц-***(рас. ***черта –рыска***) і фармант – ***ёж***. Таму тэрміналагічныя слоўнікі незалежнай Беларусі сталі выкарыстоўваць слова ***рысунак*** як адэкват рас. ***чертёж.*** Так, у "Тэрміналагічным слоўніку па вышэйшай матэматыцы для ВНУ" Т. Сухой, Р.Еўдакіменкі, В.Траццякевіча, Н. Гудзень (Менск,1993.С.88) чытаем: ***"Чертеж – рысунак, чертить – рысаваць, черчение – рысаванне"***.

І гэта натуральна, бо ўтваральнае слова ***рысаваць*** мае значэнне *'перадаваць прадметы на плоскасці ад рукі пры дапамозе графічных сродкаў (звычайна контурамі, рыскамі і пад.).'* " Дзед браў вялізныя лісты медзі, рысаваў на іх розныя геаметрычныя фігуры. Змітрок Бядуля (ТСБМ. Т.4. Мн., 1980.С.738). Або: "Абрысаваць знак. Абвесці рыскай, абчарціць" (ТСБМ. Т.1.Мн., 1977.С.74).

*(Працяг у наступным нумары).*

# Вялікі працаўнік на ніве роднай мовы

## (да 75-годдзя прафесара І.Лепешава)

23 кастрычніка споўнілася 75 гадоў вядомаму беларускаму мовазнаўцу доктару філалагічных навук прафесару Івану Якаўлевічу Лепешаву.

І. Лепешаў нарадзіўся ў вёсцы Іскозы Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці. Прайшоў нялёгкімі дарогамі Вялікай Айчыннай вайны, за што быў узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны 2-ой ступені і многімі медалямі. У 1948 г. закончыў Аршанскі настаўніцкі, а ў 1959 г. Гарадзенскі педагагічны інстытут імя Янкі Купалы. З 1948 па 1971 г. настаўнічаў на Гарадзеншчыне. З 1971 працуе выкладчыкам Гарадзенскага універсітэта (з 1987 прафесарам).

Па-добраму здзіўляе і ўражвае тая акалічнасць, што Іван Якаўлевіч Лепешаў прыйшоў у навуку даволі позна, стаў кандыдатам навук толькі ў 1973 г. (у 49 гадоў), але дагнаў і абагнаў па колькасці навуковых прац сваіх равеснікаў і старэйшых спецыялістаў, а па ліку сваіх фундаментальных кніг, манаграфій і слоўнікаў пакінуў многіх з іх даволі далёка ззаду.

Цяпер на рахунку І. Лепешава – 20 кніг і больш як 250 навуковых артыкулаў і рэцэнзій.

Манаграфія І. Я. Лепешава "Фразеалогія ў творах К. Крапівы. Стылістычнае выкарыстанне фразеалагізмаў" (1976) прысвечана майстэрству Кандрата Крапівы ў выкарыстанні фразеалагізмаў, ролі народнага пісьменніка ва ўзбагачэнні нацыянальнага фразеалагічнага фонду. Складанасць праблемы вымагала аўтара кнігі разгляду і многіх агульных фразеалагічных пытанняў.

У 1981 г. выйшла кніга І.Лепешава "Лінгвістычны аналіз літаратурнага твора", у якой раскрыта спецыфіка мовы мастацкай літаратуры. На базе даследвання аўтарам гутаркі "Дзядзенька Антон", камедыі В. Дуніна-Марцінкевіча "Пінская шляхта", паэмы Я.Коласа "Новая зямля", камедыі К. Крапівы "Хто смяецца апошнім", паэмы А.Куляшова "Сцяг брыгады" і інш. паказана, як трэба аналізаваць розныя "моўныя цяжкасці" (мнагазначнасць слова, факты сематычнага характару, ужыванне слоў з нязвыклым сэнсам ці стылістычным адценнем, індывідуальнааўтарская інтэрпрэтацыя магчымасцяў слова, розныя змены формы або зместу фразеалагізмаў і г.д.).

Выйшаў з друку ў дзвюх частках "Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў" І.Лепешава – першая спроба ў беларускім мовазнаўстве стварыць фразеалагічны слоўнік такога тыпу. У першай частцы (1981) растлумачана паходжанне каля 450 фразеалагізмаў, а ў другой (1993) - каля 900 фразеалагізмаў.

У стылістычным плане фразеалогія сучаснай беларускай літаратурнай мовы даследуецца І. Лепешавым у манаграфіі "Праблемы фразеалагічнай стылістыкі і фразеалагічнай нормы" (1984). У працы вызначаюцца крытэрыі функцыянальна-стылявога размежавання фразеалагізмаў, аналізуюцца стылявыя разрады і стылістычнай функцыі фразем, сістэматызуюцца індывідуальна-аўтарскія прыёмы абнаўлення фразеалагізмаў, разглядаецца праблема фразеалагічнай нормы, матываваных і нематываваных адхіленняў ад яе. Гэта салідная манаграфія стала асновай доктарскай дысертацыі І.Лепешава, якую ён паспяхова абараніў у Акадэміі навук Беларусі ў 1985 г.

У 1991 г. выйшла з друку праца І. Лепешава "З народнай фразеалогіі. Дыферэнцыяльны слоўнік". У лексікаграфічным даведніку даецца семантычная, граматычная, стылістычная, а часам і этымалагічная характарыстыка каля 700 народна-дыялектных фразеалагізмаў, запісаных Лепешавым у гаворках Гарадзенскай і Віцебскай абласцей, якія не апісваліся ў беларускіх лексікаграфічных і фразеалагічных даведніках як літаратурнай, так і дыялектнай мовы.

У 1993 г. выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі выдала двухтомны "Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы", падрыхтаваны І. Лепешавым. Гэта нарматыўны тлумачальны фразеалагічны слоўнік сучаснай беларускай літаратурнай мовы, у якім лексікаграфічна апісана каля 6000 фразеалагізмаў. Даецца сематычная, граматычная і стылістычная характарыстыка фразеалагічных адзінак, у адпаведных выпадках паказваюцца сінанімічныя і антанімічныя сувязі фразеалагізмаў. Слоўнік багата ілюстраваны цытатмі з твораў мастацкай і публіцыстычнай літаратуры.

І.Лепешаў і М. Якалцэвіч у 1996 г. апублікавалі "Слоўнік беларускіх прыказак". Гэта першая ў беларускім мовазнаўстве спроба стварыць тлумачальны слоўнік беларускіх прыказак. У слоўніку тлумачыцца сэнс каля 1000 найбольш ужывальных прыказак беларускага народа. Пры неабходнасці даецца іх сітуацыя і стылістычная характарыстыка. Пры многіх прыказках ёсць даведкі пра іх паходжанне. Выкарыстанне прыказак як моўных адзінак ілюструецца прыкладамі з мастацкіх і публіцыстычных тэкстаў. У слоўніку адлюстравана варыянтнасць прыказак і сінанімічныя адносіны паміж імі. У працы паказана, у якіх парэміялагічных зборніках прыводзіцца пэўная прыказка ці яе разнавіднасці. Слоўнік забяспечаны вялікай прадмовай, дзе даецца вызначэнне прыказкі як фальклорна-моўнага жанру, прыводзяцца погляды на вызначэнне паняцця "прыказка", пералічваюцца віды прыказак, паказваецца іх адрозненне ад фразеалагізмаў і інш.



Працуючы доўгі час у школе настаўнікам, а затым у ВНУ выкладчыкам, І. Лепешаў не забываў у сваёй навуковай дзейнасці пра патрэбы школы і ВНУ. Так, яшчэ ў 1969 г. ён выдаў кнігу аб'ёмам у 8 улікова-выдавецкіх аркушаў "Літаратуразнаўчы гуртог у школе". У 1973 г. разам з Н. Гаўрош і Ф. Янкоўскім І.Лепешаў апублікаваў першы тлумачальны фразеалагічны слоўнік беларускай літаратурнай мовы – "Фразеалагічны слоўнік для сярэдняй школы", у якім растлумачана больш чым 1330 фразеалагічных адзінак, паказана ўжыванне фразеалагізмаў у маўленні на прыкладах з твораў мастацкай літаратуры, якія ўключаны ў школьную праграму або рэкамендаваны для пазакласнага чытання. У 1985 г. у серыі "Скарбы мовы" выйшла кніга І.Лепешава "Моўныя самацветы", прызначаная для вучняў старэйшага школьнага ўзросту, у якой аўтар расказвае пра асаблівасці фразеалагізмаў, знаёміць вучняў з дасціпным і трапным выкарыстаннем устойлівых моўных адзінак. Значную ўвагу аўтар удзяляе ў кнізе правілам нарматыўнага ўжывання фразеалагізмаў.

І.Лепешаў з'яўляецца аўтарам вучэбных дапаможнікаў для філалагічных факультэтаў. З.Г.Малажай і К. Панюціч ён напісаў падручнік "Практыкум па беларускай мове" (1980, 2 выд. 1988). У ім прыводзяцца пісьмовыя і вусныя заданні, якім папярэднічаюць кароткія тэарэтычныя звесткі. Значная ўвага ў дапаможніку ўдзяляецца словаўжыванню, культуры маўлення. У 1989 г. выйшла з друку кніга І.Лепешава "Асновы культуры мовы і стылістыка. Практыкум". У гэтым дапаможніку для студэнтаў чацвёртага курса філфакаў універсітэтаў змешчаны разнастайныя заданні і практыкаванні па камунікатыўных якасцях маўлення (правільнасць, дакладнасць, лагічнасць, чыстата, дарэчнасць, разнастайнасць, выразнасць), абгрунтаваны искаторыя "аслабленыя" ўчасткі маўлення і кароткія рэкамендацыі па пытаннях літаратурных норм (арфаэпічных, акцэнталагічных, словаўтваральных, марфалагічных, сінтаксічных, фразеалагічных). Пытанні культуры мовы разглядаюцца ў цеснай сувязі з праблемамі стылю, з пытаннямі стылістыкі.

У 1998 г. выйшла з друку кніга І.Лепешава "Фразеалогія сучаснай беларускай мовы". На тытуле пазначана, што гэта вучэбны дапаможнік для студэнтаў філалагічных факультэтаў ВНУ, а на самой справе гэта салідная манаграфія, дзе выкладзены і вырашаны адносна поўна, з улікам апошніх дасягненняў славістыкі пытанні фразеалогіі і фразеаграфіі сучаснай беларускай мовы.

Акрамя названых і іншых кніг І.Лепешава, пытанням мовазнаўства, у пераважнай большасці фразеалогіі, фразеаграфіі, культуры маўлення і нормам слова – і фразеаўжывання прысвечана і больш чым 250 прац "малога жанру" – артыкулы, рэцэнзіі, агляды. І ў гэтых публікацыях спецыялістам вырашаюца актуальныя, значныя, праблемныя пытанні мовазнаўства. Імі ён ліквідаваў многія белыя плямы ў беларускай фразеалогіі, фразеаграфіі, культуры маўлення, стылістыкі.

Дзякуючы манаграфіям, слоўнікам і навуковым артыкулам І. Лепешава, прысвечаным устойлівым выразам, раздзелы мовазнаўства фразеалогія і фразеаграфія ў сваім развіцці зрабілі значны крок наперад.

Творча актыўным, няўрымслівым чалавекам застаецца Іван Якаўлевіч і цяпер, у шаноўным узросце. Нядаўна ў Горадні выйшаў (на вялікі жаль, мізэрным накладам) яго лексікаграфічны даведнік, выходзяць новыя артыкулы (у "Настаўніцкай газеце", часопісе "Роднае слова", спецыяльных часопісах, праблемных зборніках і інш.). У дарагім для мяне і паважаным мною штотыднёвіку "Наша слова" адзін за адным з'яўляюцца цікавыя артыкулы І.Лепешава: "І яшчэ трохі пра Пушкіна" (за 26 жніўня 1998 г.), "Пра наш правапіс" (за 7 кастрычніка 1998 г.), "Руку правую потешить..." (за 28 кастрычніка 1998 г.) і інш.

Прапрацаваўшы ў навуцы ўсяго тры дзесяткі гадоў, І.Лепешаў зрабіў надзвычай многа, што падчас бывае пад сілу толькі цэлым калектывам. Прычым, усе яго навуковыя працы – фундаментальныя, важкія, вельмі патрэбныя і актуальныя. Неабходна яшчэ ўлічыць тое, што Іван Якаўлевіч усе свае навуковыя працы ствараў паралельна з педагагічнай работай у Гарадзенскім дзяржаўным педагагічным інстытуце імя Янкі Купалы, а пазней у Гарадзенскім універсітэце. Іванам Якаўлевічам падрыхтаваны тысячы кваліфікаваных настаўнікаў роднай мовы і літаратуры. І.Лепешаў актыўна рыхтуе і кадры вучоных; многія яго аспіранты сталі кандыдатамі навук і таксама плённа працуюць на выкладчыцкай ніве і ў мовазнаўчай навуцы.

Пажадаем юбіляру моцнага здароўя, вялікіх творчых поспехаў у беларускай мовазнаўчай навуцы і новых працоўных здзяйсненняў на выкладчыцкай ніве.

*Мікалай Крыўко, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі.*

---

**Не прайшлі перарэгістрацыю і ліквідаваны наступныя арганізацыі ТБМ:**

БЕРАСЦЕЙСКАЯ ВОБЛАСЦЬ
1. Івацэвіцкая раённая
2. Камянецкая
3. Жабінкаўская
4. Лунінецкая
5. Іванаўская
6. Ганцавіцкая

ВІЦЕБСКАЯ ВОБЛАСЦЬ
1. Браслаўская раённая
2. Докшыцкая
3. Дубровенская
4. Сенніцкая
5. Чашніцкая
6. Лёзненская
7. Лепельская
8. Талачынская
9. Шуміліпская
10. Расонская гарадская
11. Мёрская рэгіянальная

ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ
1. Гомельская абласная
2. Гомельская раённая
3. Гомельская гарадская
4. Акцябрская раённая
5. Буда-Кашалёўская
6. Брагінская
7. Добрушская
8. Жлобінская
9. Кармянская
10. Лельчыцкая
11. Лоеўская
12. Петрыкаўская
13. Рагачоўская
14. Рэчыцкая
15. Хойніцкая
16. Светлагорская гарадская
17. Жыткавіцкая гарадская

ГАРАДЗЕНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ
1. Астравецкая раённая
2. Ашмянская
3. Зэльвенская
4. Іўеўская
5. Навагардская
6. Гудзеўская Рада Мастоўскага раёна
7. Суполка ТБМ з-да "Оптык" г.Ліда

МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛАСЦЬ
1. Круглянская раённая
2. Чавуская
3. Крычаўская
4. Бялыніцкая
5. Дрыбінская
6. Клімавіцкая
7. Мсціслаўская
8. Чэрыкаўская
9. Першамайская раённая г.Бабруйска
10. Суполка "Гоман" г.Бабруйска

МЕНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ
1. Лагойская суполка
2. Мядзельская раённая
3. Дзяржынская
4. Чэрвенская
5. Пухавіцкая
6. Радашковіцкая
7. Нясвіжская
8. Валожынская
9. Вілейская гарадская
10. Івянецкая рэгіянальная

Такім чынам, прапануецца ліквідаваць 63 арганізацыі ТБМ.

*Леў Мірачыцкі*

# Беларуская дыяспара ў Латвіі, альбо світанне ў балтакрэваў

***Гэта зноў ты, мая дарагая Айчына!***
***Я чую гукі бестурботных песень...***
*Яніс Райніс*
***Гісторыя спраў вялікіх твораць людзі,***
***Якіх у нетрах ўзгадаваў народ.***
***Былі мы ад вякоў, мы ёсць, мы будзем,***
***На спадчыне дзядоў сваіх крывіцкі род!***
*Ларыса Геніюш. Даўніна*
***Бярэш вялікі грэх на душу,***
***Калі згубіш мову беларуса.***
*(З латгальскіх дайнаў)*

Народы прыбалтыйскіх краін маюць сваю адметнасць, найперш – багатую і цікавую гісторыю, катораяа бярэ пачатак у далёкай мінуўшчыне. Вядома, што яшчэ ўпершым тысячагоддзі да нашай эры тут жылі індаеўрапейскія плямёны балтаў, якія складваліся з розных этнічных груп. Рымскія храністы даводзяць нам, што іх называлі аэстамі. Памяткі матэрыяльнай культуры, якія ім належалі, былі на даволі высокім узроўні. Яны карысталіся вырабамі з жалеза, з дрэва, бронзы. Гэтыя сведчанні траплялісяя у шматлікіх курганах, гарадзішчах. Яны даводзяць нам, што тут жылі лівы, земгалы, зелены, латгалы, куроны. У пазнейшыя часы усе яны выступалі пад агульнай назвай латышоў. Да гэтага ім давялося быць у васальнай залежнасці ад полацкіх князёў, як і ўсім, хто жыў на землях у ніжнім цячэнні Заходняй Дзвіны – Даўгавы.

Як паведмляюць заходнія летапісцы князь з Полацка збіраў з іх даніну, для чаго выкарыстоўваў атрады ліваў. Паводле звестак лівонскай хронікі і айчыннай гісторыяграфіі такая дамоўленасць была агаворана нават у гандлёвых дакументах крывічоў. Паводле умовы Полацка з Рыгай у 1210 года жыхарам Готлянда было дазволена весці гандаль уверх па Дзвіне. У гэтай умове, зазначае гісторык Баляслаў Брэжга, трэба думаць прымалі ўдзел і Віцебск, які заўсёды быў у цеснай сувязі з Полацкам, і Смаленскам, які заключыў умову, ведамую пад назовам " Смаленскае Тарговае Праўды". А гэта сведчыла, робіць вывад вучоны, што гандлёвыя адносіны Смаленска з заходнімі краінамі "уладжваюцца, уваходзяць у выразныя юрыдычныя рамкі". Такім чынам на шляху паміж Полацкам і Смаленскам, на Дзвіне, стаяў Віцебск. Дзякуючы гэткаму свайму становішчу і ён стаўся важным пунктам у гандлёвых зносінах з немцамі. Трэба думаць, што ў гэткім часе і ў гандлёвых зносінах Рыгі з Віцебскам былі наладжаны адносіны, нарушэнне каторых выклікала скаргі. Такой скаргай і ёсць грамата рыжскай рады канца XIII ст. дасланая віцебскаму князю Міхайлу Канстанцінавічу. Рыжская рада жалілася ў ёй на дадзеныя ад яго немцам крыўды. Гэтая скарга, напісаная на падставе слоў самых пакрыўджаных купцоў, ёсць цікаўная памятка для гісторыі гандлёвых зносінаў "крывіцкіх местаў з немцамі".

Зразумела, што купцы, як усюды, і ў даўнія часы праводзілі сваю мэтанакіраваную палітыку, у тым ліку і рэлігійную. 1453 год вызначыўся тым, што ў Рызе завяршылася будаўніцтва бажніцы святога Мікалая, які стаўся апекуном вандроўнікаў і купцоў. Пра гэта думалі на выспе Кліверсгольм у 1779 – 1780 г.г. у ваколіцах Рыгі, дзе была ўзведзена бажніца "Спасланне Духа Святога". Тут купцы крывічы пабудавалі свой Крэўскі двор. Смаляне, віцьбічы і палачане мелі нават купецкую гільдыю, склады і ўласныя дамы.

Усё сведчыць аб плённых сувязях крывічаў з суседнімі марскімі дзяржавамі. Таму, відаць, нездарма замацавалася азначэнне "балтакрэвы" – балтыйскія крывічы, якія пасяліліся паблізу марскіх абшараў і лагічна былі прыкаваны да марской стыхіі. Шматвяковае сужыцце бяспрэчна зрабіла абітак на іх паводзіны, звычкі. Улічвалася тут і тое, што "балтакрэвы" вельмі прыхільныя да саматканай вопраткі, якая звычайна была льнянай, а можа нават і канаплянай і заўсёды белай. Таму яны традыцыйна шануюць белы колер. Адначасова яны выступаюць прыхільнікамі сумленных спраў. Верагодна нічуць не памыліўся нямецкі гісторык Я.Колт, калі прытрымліваўся думкі, што цяжка ў Еўропе знайсці народ, які б так заслугоўваў называцца паэтычным народам і зямлю, якая так заслужыла называцца паэтычнай зямлёй. Не магла на гэта не звярнуць увагу вядомая прыхільніца філаматкай паэзіі, будзіцелька роднага слова Эмілія Плятэр (1806 – 1831) ды і сам Адам Міцкевіч (1798 – 1855), які называў гаворку родных мясцін, "самай гарманічнай з усіх славянскіх моваў".

Будучы захопленым балтакрэўскай паэзіяй, нямецкі вучоны звярнуў увагу, што тут амаль кожны складае вершы і песні, умее і любіць іх спяваць. Не дзіва, што з цягам часу ўзрасла цікавасць да народнай паэзіі Латгаліі. Зразумела, што народная творчасць паўплывала на рост духўнай запатрабавальнасці і нацыянальнай свядомасці. Заслуга ў гэтым безумоўна належыць літаратару і фальклярысту Крышанісу Баронсу (1835 – 1923).

Другая латышская даследчыца Мірдза Абала зазначыла, характэрнай асаблівасцю латышоў, як і беларусаў гэта іх надзвычай моцная схільнасць да мастацкага слова, ёсць, нават, спецыяльны паэтычны дзень, які традыцыйна рыхтуецца загаддзя.

Такімсвятам у летнюю пару стаў дзень летняга сонцастаяння, святое Купалле, па латышску – Ліга, Янаў дзень. Гэты надзвычай прыемны дзень радасная пара ў людзей, калі ёсць патрэба згадаць старадаўні звычай і павясяліцца ад душы. Гаспадар тады рыхтуе прыемныя вясковыя напоі, перадусім піва. Гаспадыня рыхтуе да гэтага дня сыр з кменам, дзяўчаты плятуць вянкі да свята, а для жывёлы, каровак – святочныя вяночкі з палявых кветак, падкрэслівае аўтарка. Усе ўдзельнікі свята мараць аб будучым ураджаі, каб ён быў шчодрым. Па рэках дзяўчаты пускаюць на ваду вянкі для суджаных. Хлопцы таксама ўвіхаюцца, каб адагнаць нячыстую сілу. Усе з нецярпеннем чакаюць поўначы, калі распусціцца дзівосная папараць-кветка. Па ранейшаму вераць у магічную сілу "Янавага", "Купальскага" святаў. Усе ахвотна умываюцца расою, вераць у цудадзейную сілу, якое ўсім людзям прыдасць бадзёрасць і ўпэўненасць.

X X X

Латышы, як і кожная вольналюбівая нацыя, зазнаўшая шматвяковы каланіяльны уціск, змагаліся, каб наблізіць перамогу, атрымаць сваю вольнасць. 18-га лістапада тут святкуецца, як дзень незалежнасці. Хаця шляхі свабоды працягваліся і далей. Рабілі тут уплыў міжнародныя падзеі. Перамовы якія вяліся з мэтай урэгулявання паміж урадам Латвіі і Расейскай федэрацыяй закончыліся ў пачатку падпісаннем мірнага дагавору (11 жніўня 1920 г.). Але сусветны эканамічны крызіс закрануў тады і Латвію. Пагоршылася сітуацыя працоўных людзей. Тым не менш ішоў працэс нацыянальнага ўсведамлення карэннай нацыі латышоў і этнічных беларусаў, якія жылі ў паўночна-ўсходняй частцы дзяржавы – Латгаліі, у Наддзвінні дзе ёсць беларускія вёскі, і людзі, што заўсёды сябе адчувалі беларусамі.

Колькі ж тады ў часе самавызначэння налічвалася іх у Латвійскай Рэспубліцы? Пра гэта згадваецца ў працы Кастуся Езавітава "Беларусь у мінулым і сучасным", якая выйшла ў Рызе ў 1927 годзе. У ёй на 36 старонцы чытаем, што пасля абвяшчэння Беларусі Народнай Рэспублікай у сакавіку месяцы 1918 году, невялічкія кавалачкі этнаграфічна-беларускія тэрыторыі ўвайшлі ў склад Латвіі, дзе на афіцыяльнай латвійскай статыстыцы 1920 году налічваецца беларусаў толькі 76 тысяч чалавек. Далей паведамлялася, што гэтая жменька беларусаў знайшла ў Латвіі прызнанне сваіх нацыянальных праў і мае тутака свае беларускія школы, вучыцельскія курсы і гімназіі, якія ўтрымліваюцца пры Міністэрстве асветы за кошт дзяржавы.

Сюды ў Прыдзвінне на хвалі Адраджэння прыбалтыйскіх народаў і нацыянальных меншасцяў неаднаразова запрашаўся ў міжваенныя гады для чытання публічных лекцыяў вядомы і заслужаны беларускі дзеяч з Вільні Антон Луцкевіч. Пры жыцці ён выступаў неаднаразова ў Рызе і Дзвінску. Усе, хто слухаў яго асабліва запамяталася лекцыя "Янка Купала як прарок Адраджэння", прысвечанапя пяцідзесятым угодкам нараджэння.

Па рэкамендацыі віленскіх беларусаў у Латвію запрашаліся таленавітыя педагогі з Заходняй Беларусі як Ігнат Дварчанін і іншыя асобы. Шмат працы ўклаў у агульную справу Вацлаў Ластоўскі і многія адраджэнцы, якія апынуліся ў прыдзвінскіх вёсках і гарадах.

## *Росны ранак Надзвіння, альбо пахвальнае слова беларусаў пра Райніса*

Цяжка сказаць, хто пра выдатнага сына гэтай зямлі ў нас не пісаў і не гаварыў цёплага замілаванага слова. Яніс Райніс (сапр. Пліешанс) дарагі ўсім, хто шануе свабоду народаў, іх карысную і творчую працу на карысць чалавецтву. Ён глыбока цаніў праўду і меў для гэтага незвычайны і магутны талент: паэт, драматург – адзін з буйнейшых майстроў мастацкага слова, чыя творчасць была прасякнута імкненнем да гуманізма і справядлівасці.

Яніс Райніс (1865 – 1929) нарадзіўся і правёў сваё маленства ў незвычайна маляўнічых мясцінах Латгаліі, дзе з даўніх часоў разам з латышамі жылі беларусы. Успамінаючы пра гэты час ён апавядаў: "Ноччу я ўважліва прыслухоўваўся да беларускіх песень старога вартаўніка Нядзеўскага, каторыя напаміналі мне спевы вясенняга ветру". Пазней, будучы, падросткам ён збіраў іх, парою завучваючы напамяць. Меладычная беларуская гаворка прамаўляла да ягонай паэтычнай душы.

Першыя ўражанні атрымаў ад маці, якая любіла спяваць народныя песні. Скончыўшы гімназію ў Рызе, Райніс едзе ў Пецярбург, дзе займаецца на юрыдычным факультэце ўніверсітэта. Тут захапляецца працамі расійскіх рэвалюцыйных дэмакратаў, творамі антычных і прагрэсіўных пісьменнікаў часу. Адчуваў, што трэба самому шукаць праўду, ніколі не пакідаў мэты з абранага шляху. Разам са сваім сябрам П.Стучкам ананімна выдае зборнік "Маленькія авадні", у якім выкрывае тых, хто глуміцца над народнай мараллю. Другая кніжка ў сатырычнай форме працягвае абраны кірунак.

Закончыўшы ўніверсітэт накіроўваецца на працу ў Віленскі акруговы суд. Вільня, былая сталіца літоўска-беларускай дзяржавы яго захапіла багатай культурай і сваімі гістарчнымі традыцыямі. Як бы там не было, дзе б не знаходзіўся, яго заўсёды клікала Латгалія. У 1890 годзе ён нарэшце едзе ў Мітаву а затым праз некаторы час пераязджае ў Рыгу. Будучы адным з арганізатараў "Новай Плыні", якая мела ўласны орган, ён па ранейшаму быў звязаны з П.Стучкам і вёў гэту патрыятычную працу ў Латвіі.

Аднак у 1898 годзе арганізацыя была разагнана, а яе сябры трапілі ў турму або высылку. Не абмінуў гэтага лёсу і Райніс. Пасля ён трапіў пад нагляд паліцыі ў Пскоў.

Пакуль яму ўдалося вярнуцца ў родныя мясціны, ён шмат зрабіў, каб выдаць некалькі літаратурных зборнікаў. Першым сярод іх варта назваць кнігу "Далёкія водгукі ў сінім вечары" у якім выкрываецца імперскі свет безнадзейнасці людского "шчасця".

Творчасць Яніса Райніса заклікае змагацца за лепшы вольны свет без фальшы і абману. Пра гэта гавораць самі назвы "Уставай", "Наперад" і іншыя. Ну хаця б такія радкі:

***Не скардзіцца, не бедаваць, -***
***Сабрацца з сілай і зламаць***
***Ярмо, што душыць з году ў год!***
***Вясной вада ўзрывае лёд!***

Чалавек як гаспадар свайго лёсу павінен накіроўваць стыхію ў патрэбнае русло "Веснавыя дні", таму ён адчувае вясну чалавецтва і заклікае змагацца за яе.

Ён цалкам аддаецца патрыятычнай рабоце дзеля будучыні свайго народа.

У алегарычнай форме, як і беларускія адраджэнцы пазней, заклікае змагацца за сваю Бацькаўшчыну. З радасцю сустракае перамены, якія прынесла рэвалюцыя 1905-07 гадоў. На яе адгукнуся драмай "Агонь і ноч". Але калі над ім навісла пагроза арышту, неабміннага арышту, ён вымушаны быў падацца на эміграцыю. Пасяліўся ў Швейцарыі, дзе жыў амаль 15 гадоў. Часовая перамога рэакцыі не збіла яго на ўзбочыну. Палымяна гучаць шматлікія творы "Новая сіла", "Ціхая кніга", "Тыя, што не забываюць" і іншыя. Ён па ранейшаму знаходзіцца ў шэрагах непахісных будаўнікоў новага свету, супрацоўнічае ў цэнтральным органе "Цыня", якая не адступае ад тэмы барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае разняволенне, заклікае быць бліжэй да людзей, хоча бачыць людзей вольнымі.

## *Высакароднае сэрца паэта*

Часта згадваецца добрыя шчырыя словы Веры Вайцалевіч, якія яна прысвяціла Янісу Райнісу:

***Разбудзіў у нашых сэрцах каханне,***
***Якім трэба кахаць свой народ.***
***Разбудзіў у нас сілу змагання.***
***Першы крок сам ступіў напярод.***

З такімі паэтычнымі радкамі, мо не заўсёды дасканалымі, але затое простымі і даходлівымі, адгукнулася на згоду слыннага паэта быць прадстаўніком у латышскім сейме і абараняць інтарэсы беларусаў. Гэта здарылася 27 чэрвеня 1922 года. Выступаў па волі і аргументавана.

*"На шляху нацыянальнага адраджэння беларусаў былі розныя перашкоды і ў Надзвінні, якое аказалася на тэрыторыі Латвіі. І хаця беларусы па канстытуцыі атрымалі права задаволіць свае духоўныя патрэбы. "А цяпер нам пан Кемп спрабуе давесці, што ніякіх беларусаў ўвогуле ў нас няма. Праўда, ён усё ж удакладняе свае высновы і гаворыць, што ў Латвіі няма беларусаў. А крыху пазней дадае што наша статыстыка, паводле дадзеных Скуеніенека, усё ж успамінае гэтых беларусаў... другія прамоўцы былі таксама супраць тых беларусаў, але ўсё ж прызналі, што такія існуюць; іх не многа, але не ў Латгаліі, - гэтую думку выказалі таксама ў дзвюх рэпліках... фактычна беларускі народ існуе, ён існуе ад старажытных часоў. І дадае, што ў гісторыі беларусы вядомы як "крывічы", пра гэта сведчыць іх багатая гісторыя. Але ж гісторыю трэба ведаць, як і тое, што ў беларускую гісторыю ўваходзіць таксама і літоўская гісторыя, а папярэднюю, літоўскую гісторыю таксама трэба ведаць. Літоўская гісторыя ўсім знаёма, і пану Кемпу таксама, я думаю добра знаёма, як засноўвалася Літоўска-Руская, гэта значыць Літоўска-Беларуская дзяржава...*

*Вядома тое, што ў гэтай дзяржаве культурным элементам былі беларусы. Таму што яны прынеслі хрысціянскую веру, яна паспрыяла іх дальнейшаму развіццю. Літоўская дзяржава зрабіла такую памылку, што пайшла па лягчэйшаму шляху і не развівала культуру свайго народа, а пераняла гатовую беларускую культуру."*

Яніс Райніс некалькі разоў выступаў у сейме ў абарону беларусаў. Ён падкрэсліваў, што ўсю віну павінен узяць на сябе сам, паколькі беларускія прадстаўнікі звярталіся да яго самі. *"Я, узяўшыся абараняць беларусаў, прапанаваў уключыць у бюджэт і Беларускі Аддзел. Трэба было стварыць гэты аддзел так, каб ён значыўся як культурная арганізацыя. Гэтай культурнай арганізацыі трэба было займацца заснаваннем школ, забяспячэннем іх рознымі матэрыяламі, у тым ліку кнігамі, і наогул весці культурную работу. Трэба было звяртацца да міністра ўнутраных спраў з просьбай не рабіць перашкод культурнаму руху гэтай беларускай арганізацыі. І ўсё ж на шляху гэтага нацыянальнага адраджэння былі розныя ганенні. Праследаваліся кіраўнікі беларускага руху, іх арыштоўвалі, але, урэшце, у міністэрстве ўнутраных спраў ішлі насустрач, вызваляючы ўсіх з-пад арышту.*

*Так беларусы атрымалі магчымасць разгарнуць у Латвіі свой рух і задаволіць свае культурныя патрэбы і памкненні.*

*У беларусаў няма ніякага другога кірунку, як на Балтыйскае мора. Яны па суседству сябруюць з Украінай. Сама ж Украіна, або Маларасія, усё ж адасоблена ад беларусаў: Украіна бліжэй да паўднёвага мора, а беларусы бліжэй да паўночнага мора. Значыць, беларусы пры сваім геаграфічным становішчы бліжэй да літоўскай дзяржавы і Латвіі. Калі мы паглядзім у гісторыю, то ўбачым, што ў нас з беларусамі многа агульнага.*

*Цяпер у нас у Латвіі каля 60 тысяч беларусаў. Ужо цяпер гэты народ (у Латвіі з зусім) з нязначнай дапамогай дасягнуў многага: ужо арганізавана 52 школы. А калі яшчэ мы гэтыя ўмовы будзем абцяжарваць, тады мы павінны паглядзець, якія інтарэсы нас на гэта гоняць".*

У заключэнні выступленне Яніса Райніса было ўважліва выслухана. У бюджэце зроблены падрахунак, паколькі ён ішоў на карысць усёй латвійскай культуры і быў накіраваны ў інтарэсах Латвійскай Дзяржавы.

У 1926 годзе Яніс Райніс быў запрошашы ў Менск на акадэмічную канферэнцыю па рэформе беларускага правапісу. У сваім прывітанні беларускаму народу, прадстаўнікам інтэлігенцыі ён коратка ахарактыразаваў становішча беларусаў у Латвійскай Рэспубліцы.

# Гутарка з Алесем Камоцкім

У кастрычніку ў Менску ў тэатры "Вольная сцэна" адбыліся канцэрты пад назвай "нябачны мір" адным з выступоўцаў быў наш вядомы бард Алесь Калюцкі. Ён пагадзіўся даць інтэрв'ю, а таксама свае песні з акордамі для "НС".

Алесь, як вы дакаціліся да беларусшчыны?

Я да беларусшчыны не дакатваўся, таму, што беларусам нарадзіўся. А калі сур'ёзна, то нацыянальную свядомасць мне прывіў бацька, з дзяцінства ён даваў мне беларускія кніжкі.

Калі пачалі пісаць вершы, песні, калі сталі выконваць песні пад гітару?

Немагу сказаць дакладна, гэта было ў часы бурдівага юнацтва, калі нармальна гулялі, нармальна выпівалі, так, што калі пачалося пісанне вершаў не памятаю, недзе ў пачатку 80-х.

У 80-х пачаўся беларускі рух, паўсталі аб'яднанні кшталту "Талакі", "Тутэйшых" і інш. Ці не ўдзельнічалі вы ў якой небудзь з іх?

Калі запрашалі то прыходзіў у госц, а ні ў якіх суполках не быў.

З чаго пачыналася ваша дзейнасць як барда?

У свой час скончыў 1-ы курс музычнай вучэльні па кларнэту, пасля граў на саксафоне, а калі скончыў граць на гэтых дудках напэўна трэба было выпускаць пар. Так, што неяк само сабой атрымалася, што на гітары. Першы мой канцэрт адбыўся ў 1986 годзе. А першы мой альбом павінен выйсці ў гэтым годзе.

Я ведаю, што аматары беларускай бардаўскай песні слухаюць вашы запісы даўно. У мяне яшчэ гадоў 8 назад была цэлая касета вашых песень, а вы кажаце, што ваш першы альбом выходзіць ў гэтым годзе.

Справа ў тым, што ўсё што раней было рабілася "без мяне", запісвалі ў час канцэртаў і г.д.

А першы альбом будзе называцца "Зорка спагады". Ён зроблены на вершы Рыгора Барадуліна. Гэта пераважна ??????.

Колькі напісана вамі вершаў, спрабавалі падлічваць?

Не неспрабаваў, калі прыкладна, то болей за дзве сотні.

У 1997 г. пабачыла свет ваша кніжка "Спроба ісці па расе", песні з якой мы будзем друкаваць у "НС". Раскажыце як яна стваралася?

Песні для гэтай кнігі я пісаў спецыяльна, а вершы я сабраў тыя, якіх ў мяне па розных носьбітах былі раскіданы, вось ???? "Спроба ісці па расе".

Якія ў вас у жыцці захапленні, хобі?

Маё асноўнае захапленне – музыка. Я люблю музыку якая кранае і неважна ў якім яна стылі.

Што б вы хацелі пажадаць нашаму Таварыству?

Я жадаў бы, каб арганізацыя якая змагаецца за беларускую мову сталася б элітарнай. Каб не было так, што ўсіх каго папала цягнулі б туды, а права знаходзіцца ў ёй трэба былоб заслужыць. Тады і мова стане прэстыжнай.

*Гутарыў Алесь Гурыновіч.*

Іваноў Уладзіслаў

# Эксперымент у сучаснай беларускай жаночай паэзіі і праблемы фэмінісцкага руху

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 6)*

Тым не менш, літаратурныя вынаходкі яшчэ не выкрыты поўнасьцю, і назапашваньне ў скарбніцах як мужчынскай, так і жаночай паэзіі далёка ад заключнай стадыі. Згадзіцеся, што даволі складана рабіць высновы, калі працэс ідзе, пастаянныя зьмяненьні, дынаміка замінаюць аналізаваць і структураваць тую ці іншую ягоную стадыю. Тым не менш, нават ня ведаючы прагнозаў на будучыню, можна сьмела сьцвярджаць, што жанчына – больш сьхільная да постмадэрных пераўтварэньняў, больш стойкая перад усімі сучаснымі трансфармацыямі. Адзначым, што ня толькі больш сьхільныя, але ж адначасова з'яўляецца стваральніцаў умоваў для замацаваньня постмадэрнізму на Беларусі. (Рэч ў тым, што гэтак званая фэмінізацыя здабыўшы ў 60-ыя гады моц і абгрунтаваную папулярнасьць, цяпер прапануе вырашыць ня толькі "жаночыя праблемы", але і мужчынскія супярэчнасьці. Рэканструкцыя жаночай тоеснасьці паралельна пераглядае, легітымізуе пасьлабленьне мужчынскага суперстатусу, суперабавязкаў і суперкампетэнцыяў, а гэта значыць імкнецца ўсталяваць эгалітарныя прынцыпы ў краіне). Пры гэтым не пакінем па-за нашай увагай вялікай ролі некаторых беларускіх выданьняў, якія мэтаю свайго існаваньня лічаць мадэрнізацыю і эўрапеізацыю Беларусі – "Наша Ніва", "Спадчына" і шэраг іншых. Аднак яны выбралі аднабаковую мадэрнізацыю – моўную, гістарычную, але толькі не эканамічную, палітычную і сацыяльную. Ігнаруючы гэтак званае жаночае пытаньне, яны пакрысе згубілі свой ідэал – Сярэднюю Эўропу, бо вядома, што яна – пераважна мужчынскае параджэньне, якое сяньня існуе ў галавах пісьменьнікаў, філёзафаў, геапалітыкаў – мужчынаў. Здаецца, што яны не зразумелі сутнасьці постмадэрнізма, не апусьціліся на яго глыбіню, бо для Заходняй Эўропы – гэта, у першую чаргу, разбурэньне мітаў, стэрэатыпаў, якія кіравалі нашым жыцьцём ў дамадэрныя стагоддзі. Мадэрнізацыя – не адмаўленьне ад мінуўшчыны, а просты перагляд фактаў, так бы мовіць ураўноўваньне поглядаў (акадэмічнага і новага, правінцыяльнага, калі размова ідзе аб лінгвістычнае дэмітызацыі ў беларускай мове). Дык вось гендэрныя стэрэатыпы ляжаць па-за ўвагай нашай "прасунутай" інтэлігенцыі, і яны застаюцца моцнымі, дзейнымі, як сярод вяскоўцаў так і гараджанаў. Нацыянальныя рухі Расейскай імпэрыі пачатку стагоддзя разбурылі старыя імпэрскія стэрэатыпы, а пасьля стварылі новыя, ад якіх цяжка пазбавіцца сяньня. Менавіта ў гэты прамежак часу зараджаецца постмадэрнасьць, раўнапраўе (з'яўляюцца і сыходзяць галоўныя жаночыя постаці сярэднеэўрапейскае мадэрнасьці – Марыя Канапніцкая, Цётка, Элаіза Ажэшка). На жаль, камуністычнае прыйсьце замарозіла сярэднеэўрапейскую мадэрнасьць і беларускую ў прыватнасьці. Не зважаючы на выкараненьне ўсялякімі манерамі ідэі Сярэдняй Эўропы камуністычнай уладай, цяга і жаданьне быць прычыненым да сучаснага захаваліся ў пэўных колах – тыя, хто сачыў за бегам часу, але ж жыў і трапляў у Гулаг. Калі ў матэрыяльным пляне савецкім людзям так і не трапілася адчуць сябе разьвітымі, мадэрнымі, дык у духоўным нацыянальныя эліты пабудавалі сучасныя літаратуру, мастацтва, філязофію. Заставаючыся штодня аб'ектамі камуністычнага эксперыменту, эстонскія, беларускія ці армянскія інтэлігенты працягвалі ўласны эксперымент са словам, формай. Ці не ў гэтым моц Чалавека? І зноўку грамадзянскі вычын Ларысы Геніюш – самы яскравы прыклад "эксперыменту пад эксперыментам". Хто, як не Яна ведае кошт чалавечай годнасьці, каму, як не Ёй верыць:

***... Груганы ўжо не над намі крачуць,***
***нашы сьлёзы адплылі ў вякі,***
***мужныя не жаляцца, не плачуць,***
***мужныя сьціскаюць кулакі.***
***(Л.Геніюш "Кроў зьбяжыць рабінамі на вусны".)***

Літаратура:

1) Ларыса Геніюш – Выбраныя вершы, Менск, 1997
2) Ларыса Геніюш – Ад родных ніў, факсімальнае выданьне
3) Цётка – Творы, Мінск, 1976
4) Канстанцыя Буйло – Коціцца рэха, Мінск, 1993
5) Яўгенія Янішчыц – ВЫбранае, Мінск, 1998
6) Наталля Арсеннева – Яшчэ адна вясна, МІнск, 1996
7) Галіна Булыка – Турмалін, Мінск, 1994
8) Галіна Булыка – Сінтэз, Мінск, 1986
9) Лера Сом - "Маладосць"-7, 1991
10) Лера Сом – "Маладосць"-3, 1993
11) Вера Бародзіч – "Маладосць"-7, 1991
12) Галіна Каржанеўская – "Крыніца" –2, 1996
13) Раіса Баравікова – Адгукнуся голасам жалейкі, Мінск, 1984
14) Раіса Баравікова – Пад небам першага спатканьня, Мінск,1990
15) Раіса Баравікова – Каханне, Мінск, 1987
16) Адам Глёбус – Суайчыньніцы // "Наша Ніва"-2(123) 25 студзеня 1999
17) Славамір Адамовіч – Спарон // "Наша Ніва" – травень 1998
18) Gilles Lipovetsky "L'ere du vide" // Ghapitre 4: Modernisme et post-modernisme, Gallimard, 1993, p113.
19) Luc Ferry "La vraie victoire des femmes" // Le Point, 4 juillet 1998.

# Давайце спяваць па-беларуску

## РАСКАЖЫ

**Словы і музыка Алеся Камоцкага**



*Am Em Am Em*
Раскажы мне пра дождж раскажы.
*C E7 Am*
Хто ў небе зьбірае дажджы,
*C Dm*
Што шматдзённа ільюць
*C G C*
На маю галаву?
*Am Em Am*
Хто у небе зьбірае дажджы?
Пакажы мне сябе, пакажы,
Не чакай, покуль час прабяжыць.
Слова моўчкі аддай
І пытаньні здымай,
Не чакай, покуль час прабяжыць.

*C G*
Грэшны кавалак неба
*C*
Бачыш ты навылёт.
*C G*
Што табе заўтра трэба?
*C*
Што табе як сваё?
*C Dm*
Раніцай сьвежы подых
*E7 Am*
Ці вечаровы змрок.
*C Dm*
Дай мне руку і пойдзем
*E7 C*
Ціха за крокам крок.

Затрымай над вачыма руку,
Каб ня зьведаць ад сонца пакут.
У выглядваньні хмар,
Што абклалі абшар,
Каб ня зьведаць ад сонца пакут.
І трывай, покуль сіла, трывай.
Хай ня глянецца за небакрай,
Дый ня сьціхне ў ілжы
За штуршок да мяжы
Тое, што нам ніхто не казаў.

Грэшны кавалак неба

Бачыш ты навылёт.

Што табе заўтра трэба?

Сонечны пералёт...

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Лілея Сазанавец, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 25. 10. 99 г.
Наклад 3300 асобнікаў. Замова № 2799
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 60 000 руб., 3 мес.- 180 000 руб.
***Кошт у розніцу:*** 20 000 руб.